

## ВЕРА ВАСІЛЬЕЎНА СЕРГЕЕНКАВА

Адзначыла свой юбілей вядомы даследчык гісторыі Расіі XIX ст., кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Расіі Вера Васільеўна Сергеенкава.

В. В. Сергеенкава нарадзілася 25 мая 1954 г. у сям'і служачых у Маскве, але большую частку жыцця пражыла, вучылася і працавала ў Беларусі, у Мінску. У 1976 г. яна з адзнакай закончыла гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Затым навучанне ў аспірантуры БДУ, якую Вера Васільеўна паспяхова закончыла ў 1979 г. Вынікам плённага супрацоўніцтва з навуковым кіраўніком, вядомым савецкім гісторыкам І. В. Аржахоўскім стала кандыдацкая дысертацыя «Урадавая палітыка ў галіне пачатковай народнай адукацыі ў Расіі ў другой палове 60-х – 70-я гг. XIX ст.», якую яна паспяхова абараніла ў 1980 г. Узровень падрыхтаванай працы быў такі высокі, што яна была адзначана дыпломам I ступені рэспубліканскага тура VI Усесаюзнага конкурсу работ маладых вучоных па грамадскіх навуках. Пасля заканчэння аспірантуры В. В. Сяргеенкава засталася ва ўніверсітэце і прайшла шлях ад выкладчыка да дацэнта кафедры гісторыі Расіі. Яе крэда стала эфектыўная, шматбаковая і плённая самарэалізацыя ў навуцы і выкладанні. Вера Васільеўна на высокім навуковым і метадычным узроўні чытае лекцыі і праводзіць практычныя заняткі па агульнаму курсу «Гісторыя Расіі і Украіны ў XIX – пачатку XX ст.». Пад яе кіраўніцтвам было створана больш за 20 шматмэтавых электронных вучэбных праектаў, уведзеных у навучальны працэс у БДУ і іншых устаноў вышэйшай адукацыі Беларусі і Расіі.

Сённяшнія навуковыя інтарэсы Веры Васільеўны ахопліваюць гісторыю Расіі XIX ст., шматаспектную ўрадавую палітыку самадзяржаўя, гістарыяграфію гісторыі Расіі. Яна распрацавала і паспяхова апрабавала шэраг спецкурсаў («Гістарыяграфія гісторыі Расіі», «Расійскія імператары XVIII–XX стст. Гістарычныя партрэты», «Палітыка расійскага ўрада ў польскіх землях (канец XVIII – XIX ст.)» і інш.). В. В. Сергеенкава, апрача таго, зарэкамендавала сябе як паспяховы навуковы кіраўнік, яна падрыхтавала пяць кандыдатаў навук. Плённая яе праца на навуковай глебе: больш за 90 друкаваных прац, у тым ліку вучэбна-метадычны комплекс «Гісторыя Расіі (1856–1917)», вучэбны дапаможнік «Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў схемах», «Кіруемая самастойная праца студэнтаў. Модульна-рэйтынгавая і рэйтынгавая сістэмы» (Мінск, 2005), навуковыя артыкулы і навукова-метадычныя выданні. Яна ўжо колькі гадоў узначальвае вучэбна-метадычную камісію гістарычнага факультэта.

Выдатныя арганізатарскія здольнасці, высокая навуковая і прафесійна-выкладчыцкая кваліфікацыя, разнастайныя веды, плённае супрацоўніцтва – усё гэта выклікае павагу і заслужаны аўтарытэт у калег, аспірантаў і студэнтаў. Вера Васільеўна падышла да юбілею поўная сіл і творчага энтузіязму, што шчыра шануецца калектывам факультэта і кафедры.

Прызнанне высокіх заслуг В. В. Сергеенкавай ужо ўвасобілася ў падзяцы (2002) і Ганаровай грамаце Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (2009), неаднаразова – у граматах і ганаровых граматах БДУ.

Калектыў гістарычнага факультэта і кафедры гісторыі Расіі сардэчна віншуюць шаноўную Веру Васільеўну з юбілеем і жадаюць доўгіх гадоў, добрага настрою, плёну і новых творчых пачынанняў.

***Калектыў кафедры***
***гісторыі Расіі***